# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 40 (2234)

3 кастрычніка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

## НОВАЯ ГІСТОРЫЯ ПАЧЫНАЕЦЦА З 19 ВЕРАСНЯ 1991 ГОДА

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі пастанаўляе:

1. Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку надалей называць Рэспублікай Беларусь, а ў скарочаных і састаўных назвах — Беларусь.

Устанавіць, што гэтыя назвы транслітэруюцца на іншыя мовы ў адпаведнасці з беларускім гучаннем.

***

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Дзяржаўны сцяг Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой палотнішча, якое складаецца з трох гарызантальна размешчаных каляровых палос роўнай шырыні: верхняй і ніжняй белага, а сярэдняй — чырвонага колеру. Адносіны шырыні сцяга да яго даўжыні — 1:2.

***

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Дзяржаўным гербам Рэспублікі Беларусь з'яўляецца старажытны беларускі герб "Пагоня", які ўяўляе сабой выяву размешчанага на чырвоным фоне конніка белага колеру, скіраванага ў левы бок, з узнятым мячом і шчытом з крыжам.

*(З Законаў, прынятых Вярхоўным Саветам рэспублікі 19 верасня 1991 года).*

## *ПОПЕЛ МІНУЛАГА СТУКАЕ Ў СЭРЦА*





**Для жыхароў Нава[...]кага раёна Гомеля 9-ты кіламетр Чарн[...]кай шашы ахутаны нядобрай тайнай. [...] не толькі з-за чутак, што месца гэта гіблае, балоцістае. Жывыя яшчэ людзі, памяць якіх захоўвае аб 9-м кіламетры трагічныя ўспаміны. Адзін з іх — Фёдар Левянчук.**

**— З даўніх часоў былі тут яўрэйскія могілкі, а побач — балота, драбналессе, — расказвае ён. — Л[...] без патрэбы сюды не заходзілі. А пот[...]алі сталі выстралы адсюль чуваць, тым больш цураліся яго. Мне ж за даваенным часам часта даводзілася міма яго хадзіць на работу. Чуў ад людзей, што рабочыя з вёскі [...]маўка, вяртаючыся з Гомеля, куды ваз[...]а пілараму лес, спыніліся непадалёку ад могілак перакурыць. Смельчакі вырашылі паглядзець, куды гэта крытыя машыны пад'язджаюць. Страшную карціну ўбачылі, а самі ледзь выратаваліся. Мне ж не верылася, што можна вось так проста людзей, як курапатак... А потым і сам пе[...]чаўся. Давялося ўбачыць на знаёма[...]лянцы свежы жоўты пясок, а з яго — дзе рука, дзе нага... Відаць, спяшаліся, таму і неглыбока капалі. Хто быў ахвярай рэпрэсій, колькі іх — пакуль ніхто не ведае. Зарастаюць хмызнякамі і дрэвамі магілы, паміраюць старыя, якія маглі б праліць хоць нейкае святло на падзеі тых даваенных дзён. Але, магчыма, яшчэ не позна, і нехта з вучоных, крыміналістаў возьмецца ўнесці яснасць у гэтую сумную старонку нашай гісторыі?**

**НА ЗДЫМКАХ: гэта месца ўсё яшчэ чакае сваіх даследчыкаў; трывожаць успаміны Фёдара ЛЕВЕНЧУКА.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

# З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ШТАНДАРАМ У ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ

**На пытанні карэспандэнта "Голасу Радзімы" адказвае народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, сакратар камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці ў сродках масавай інфармацыі і правоў чалавека Сяргей НАВУМЧЫК.**

**— Сяргей Іосіфавіч, калі апазіцыя Вярхоўнага Савета, да якой вы належыце, толькі сфарміравалася, многія ўспрымалі вас як людзей, якія перашкаджаюць нармальна працаваць беларускаму парламенту, пастаянна выходзяць з нейкімі, часам несур'ёзнымі, на думку многіх, і нерэальнымі прапановамі. Сёння парламенцкая апазіцыя стала сапраўднай палітычнай сілай. Якім быў гэты шлях?**

— Хутка два гады, як я з'яўляюся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі і сёння бачу пэўную заканамернасць у тым, што мы апынуліся ў парламенце менавіта ў той час. Не асабіста Пазняк, Заблоцкі ці Навумчык, а ўвогуле прадстаўнікі нешматлікай палітычнай групоўкі, якая першай заявіла аб неабходнасці карэнных змен у палітычным, сацыяльным і эканамічным развіцці Беларусі. Заслуга тут перш за ўсё БНФ, таму што апазіцыя стварылася і аформілася на ідэйнай платформе Беларускага народнага фронта. Я меў дачыненне да яго стварэння з самага пачатку. Яшчэ будучы студэнтам факультэта журналістыкі БДУ імя Леніна, уваходзіў у аб'яднанне "Майстроўня", якая тады ладзіла народныя святы, імкнулася адрадзіць іншыя народныя традыцыі. Пасля вучобы, працуючы ў газеце "Віцебскі рабочы", разам са сваімі сябрамі па клубу "Узгор'е" змагаўся за адраджэнне помнікаў беларускага дойлідства, старажытных храмаў і будынкаў Віцебска, якія былі пад пагрозай знішчэння. Потым была доўгая барацьба супраць будаўніцтва АЭС пад Віцебскам... І вось ужо апынуўшыся ў 1988 годзе ў Мінску, я даведаўся, што ў Доме кіно збіраецца аргкамітэт па ўтварэнню таварыства "Мартыралог Беларусі". Прыйшоўшы туды, убачыў шмат людзей, з якімі альбо сябраваў на факультэце журналістыкі, альбо сустракаў іх прозвішчы ў друку. Усе мы ішлі аднолькавым шляхам. Спачатку гэта было жаданне нацыянальнага адраджэння, барацьба за захаванне і адраджэнне духоўнай і матэрыяльнай культуры. Мы змагаліся за пашырэнне праўды аб Чарнобылі і аб экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы, расказалі свету пра Курапаты. І як лагічнае завяршэнне — палітычныя патрабаванні. Я думаю, усё гэта натуральна, бо і праблемы экалагічнага выжывання, і пытанні духоўнай чысціні можна вырашыць толькі палітычным шляхам.

**— Усе мы памятаем пачатак нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, якая праходзіла ў жніўні адразу пасля путчу. Зянон Пазняк унёс у залу парламента бела-чырвона-белы сцяг і прапанаваў паставіць яго побач з дзяржаўным сцягам БССР. Большасцю галасоў прапанова была адхілена. Але ўжо на наступны дзень дэпутаты прынялі Закон аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі, а менш чым праз месяц бела-чырвона-белы сцяг стаў нашым дзяржаўным. Ці верылі самі вы ў магчымасць такога імклівага развіцця падзей?**

— Калі дэпутаты-дэмакраты сабраліся разам упершыню пасля выбараў, то ўяўлялі, даруйце мне, нейкую аморфную масу, кожны меў сваю праграму, сваю жыццёвую пазіцыю, кожны адстойваў свае прапановы. Пастаўленае Зянонам Пазняком тады пытанне аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі абсалютнай большасцю дэпутатаў апазіцыі (і мною таксама) было ўспрынята без асаблівага энтузіязму. Мне здавалася, што да рашэння гэтага пытання

(Заканчэнне на 3-й стар.).

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# НАРКОМ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

РЫСЬКІН. Вы сцвярджаеце, што не ведалі, кім у мінулым быў Баліцкі?

ІГНАТОЎСКІ. Калі я выпісваў Баліцкага, я не ведаў.

РЫСЬКІН. Калі вы даведаліся?

ІГНАТОЎСКІ. Я не магу цяпер успомніць, калі.

РЫСЬКІН. Як жа вы не ведаеце чалавека, не ведаеце, хто ён, і згаджаецеся, каб ён пайшоў да вас намеснікам наркома?

ІГНАТОЎСКІ. Ён не прыехаў адразу на пасаду намесніка наркома. Ён быў раней нейкім загадчыкам аддзела. Але людзей было мала, а ён, як добры практычны работнік, адразу прывёў каштарысы ў парадак, чаго я ніяк не мог зрабіць. Ясна, што работнік добры, і, дзякуючы гэтаму, ён потым адсунуў мяне. Я нічога не мог зрабіць фактычна, хаця я і быў наркомам. Каранеўскі пачаў пярэчыць, і тады смяяліся, што адэская група прыніжае мінскую групу, так што сапраўды паступова Наркамасветы трапіў у рукі Баліцкага, калі я быў наркомам...

РЫСЬКІН. Гэта значыць, усе справы Наркамасветы вяла адэская група на чале з Баліцкім, Некрашэвічам... Але ці толькі ў гэтым прычына, што вы перасталі быць кіраўніком Наркамасветы?

ІГНАТОЎСКІ. Далібог, не ведаю. Цяжка сказаць.

РЫСЬКІН. Менавіта да гэтага перыяду адносяцца тыя заявы, якія гавораць, што вы іменна ў гэты перыяд займаліся так званымі "беларускімі справамі", што з вамі вялі пастаянныя размовы наконт гэтых "беларускіх спраў" усякія людзі, якія аказаліся нацдэмамі, што значыліся ў вашай групе, што вы захапляліся гэтай работай так, што проста не паспявалі кіраваць Наркамасветай...

Гэта ўрывак стэнаграмы гутаркі з У. Ігнатоўскім на пасяджэнні партыйнай калегіі ЦКК КП/б/Б, што адбылася ў снежні 1930 года. Фантасмагорыя, ды і толькі: былы нарком асветы Усевалад Ігнатоўскі адказвае на пытанні аб сваім пераемніку Антоне Баліцкім (ужо арыштаваным АДПУ), пытанні, у якіх, здаецца, "здравого смысла" аніколькі.

Сакратар партыйнай калегіі ЦКК КП/б/Б і намеснік старшыні Наркамата Рабоча-сялянскай інспекцыі БССР Арон Рыськін добра ведаў мінулае А. Баліцкага: яно ж было перад членамі калегіі, адлюстраванае ў дакументах, што і по сённяшні дзень захоўваюцца ў архіве. Як ведаў, хто, чаму і для чаго "выпісваў" Баліцкага з Адэсы ў Мінск: не ён адзін, сотні, калі не тысячы, беларусаў — спецыялістаў, настаўнікаў, прадстаўнікоў творчых прафесій, раскіданых дзвюма войнамі і рэвалюцыямі на абшарах краіны не па нечай злоснай задуме, а па дамове між ЦК КП/б/Б і ЦК РКП/б/, рэспубліканскім і цэнтральным урадамі, на пачатку 20-х вярталіся ў родны край, каб паспрыяць яго адраджэнню. Ведаў, што Адэса ў гады вайны стала адным з гарадоў, дзе прытуліліся тысячы бежанцаў, што на Румынскім фронце служылі тысячы мабілізаваных беларусаў. Ведаў, што Ігнатоўскі і Баліцкі ў добрых адносінах, зладжана і плённа разам працавалі, што адзін браў на сябе цяжар практычных спраў, на якія ў другога з-за гранічнай занятасці не хапала часу. Але тыя, што задавалі пытанні і не чакалі праўдзівых адказаў, дамагаліся адказаў патрэбных. Тыя, каго дапытвалі і абвінавачвалі, спрабавалі неяк выйсці са складанага становішча, зменшыць пагрозу сабе, сваім сябрам і ўтрымацца пры гэтым на маральнай вышыні.

Фантасмагорыя. Драма. Трагедыя, што раскінула свае крылы над лёсамі гэтых двух і ўжо над тысячамі іншых. Трагедыя змрочнай пары сталіншчыны, што набірала моц. На вачах літаральна з нічога, са злачыннай фантазіі, з падмен і падманаў ствараўся страшны прывід нацдэмаўшчыны. Прывід, ды толькі ахвяры былі рэальныя — людзі, многа людзей, соль інтэлігенцыі.

Сярод іх — Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі і Антон Васільевіч Баліцкі. Першаму заставалася жыць крыху больш месяца: 4 лютага 1931 года стрэлам з браўнінга ён абарве сваё жыццё. Другому было наканавана прайсці праз усе кругі гулагаўскага пекла, быць вернутым у Мінск у 1937, паўторна асуджаным (за тое ж) і расстраляным. На роднай зямлі — хоць у гэтым літасць лёсу. Ды толькі невядома дзе, і магілкі не адшукаць.

Ігнатоўскі і Баліцкі — дзве буйныя фігуры беларускага адраджэння 20-х гадоў. Адраджэння, якое стала зместам нацыянальнай палітыкі Савецкай улады і ўвайшло ў гісторыю пад назвай палітыкі беларусізацыі. Безумоўна, У. Ігнатоўскі — фігура першага плана, ідэолаг і практык гэтай палітыкі, вучоны-гісторык. Але і роля А. Баліцкага не другарадная. Ён практык і толькі практык, арганізатар, які праводзіў палітыку ў жыццё. Але практык і арганізатар сапраўды творчы, сапраўды таленавіты, здольны сам генерыраваць ідэі, браць на сябе адказнасць у прыняцці неардынарных рашэнняў і паслядоўна даводзіць іх да практычнага ўвасаблення, ствараць творчы настрой у калектыве, чуллівы да людзей ініцыятыўных, дзелавых, актыўных.

Лёс А. Баліцкага не назавеш простым, як і многіх іншых, каму выпала жыць на "зломе часу" — дзвюх рэвалюцый і дзвюх войнаў. Пошук сябе і свайго месца ў гэтым бурлівым, "кровью окроплённом" свеце даваўся цяжка, аплачваўся пакутлівымі думкамі, сумненнямі, боллю душы, расстаннямі з сябрамі і аднадумцамі, нярэдка ўласнай крывёю. Як і многія з будучых творцаў беларускага адраджэння, выйшаў ён з сялян, быў інтэлігентам у першым пакаленні. Вёска Балічы былой Лашанскай воласці Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні — яго родны кут. Тут 4/17/ верасня ён нарадзіўся — унук прыгоннага і восьмы сын у бедных бацькоў (шэсць дзесяцін надзелу).

Цяжкія ўражанні дзяцінства запомняцца надоўга, адгукнуцца радком у аўтабіяграфіі, напісанай ужо рукой наркома: "Рос, выхоўваўся і вучыўся ў абстаноўцы нястач і голада..." і ўсё ж бацькі выршылі вывучыць малодшага, вывесці ў людзі. Антон скончыў Лашанскую царкоўнапрыходскую школу, затым Свіслацкую семінарыю, год працаваў настаўнікам у вёсцы, паступіў у Віцебскі настаўніцкі інстытут, дыплом аб заканчэнні якога атрымаў у 1918 годзе. Жыццёвы шлях, здавалася, вызначыўся. Гэтак жа, як і светапогляды: яшчэ ў семінарыі пазнаёміўся з эсэраўскай літаратурай, успрыняў іх ідэі, у інстытуце прыняў удзел у стварэнні літаратурна-рэвалюцыйнага гуртка. Аднак ішла вайна: у студзені 1916 года яго мабілізуюць на ваенную службу і, як чалавека з пэўнай адукацыяй, накіроўваюць у Паўлаўскае ваеннае вучылішча. Праз чатыры месяцы — прапаршчык, месца службы — Растоў-Дон. Праз год — падпаручнік 300-га палка, які кватараваў у Бендэрах Бесарабскай губерні. Тут і заспела яго Лютаўская рэвалюцыя. Падпаручнік у хуткім часе абіраецца спачатку членам, а потым і старшынёй палкавога камітэта, членам Ваенна-выканаўчага камітэта гарнізона г. Бендэры — факты, якія сведчаць аб даверы салдат афіцэру Баліцкаму, які ў той час ні да адной з партый не належаў. Але ў верасні 1917 года, рашуча адвяргаючы перспектыву ўсталявання ваеннай дыктатуры, павёў увесь гарнізон на падаўленне карнілаўскага мяцяжу, за што быў выбраны павятовым ваенным камісарам.

**Аляксей КАРОЛЬ.**

(Працяг будзе).

# З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ШТАНДАРАМ У ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

шлях не менш як гадоў сем. І я яшчэ больш-менш лаяльна ставіўся да ідэі суверэнітэту, астатнія лічылі гэта самазабойствам і патрабавалі пытанне аб суверэнітэце зняць з парадку дня.

Аднак было шмат іншых праблем, якія патрабавалі хуткага вырашэння, і парламенцкая апазіцыя за год прапанавала каля ста законапраектаў.

**— Колькі ж з іх было прынята?**

— Ніводнага. Да апошняй сесіі. Мы доўгі час працавалі ў вельмі неспрыяльных псіхалагічных умовах, калі адхіляліся прапанаваныя намі законы аб зямлі, аб народаўладдзі, аб міліцыі.

**— Дык што ж, увесь гэты час вы працавалі дарэмна?**

— Як паказалі падзеі апошніх сесій, нашы ідэі знайшлі водгук у дэпутатаў. Мы кожны раз спадзяваліся, што, калі не ўвесь закон, дык хаця б нейкія яго палажэнні ўдасца правесці ў жыццё. Паколькі ўвесь час ішлі прамыя трансляцыі пасяджэнняў Вярхоўнага Савета па радыё і тэлебачанні, народ меў магчымасць пераканацца, што ёсць іншыя, альтэрнатыўныя КПСС сілы, ёсць іншыя шляхі развіцця і грамадства, і эканомікі. І адным з фактараў, які абумовіў пералом на нечарговай сесіі 24—25 жніўня, была падтрымка людзей з плошчы перад будынкам Дома ўрада. Калі падчас красавіцкіх страйкаў людзі выйшлі на вуліцы, патрабуючы хлеба, то зараз яны выйшлі ўжо за дэмакратыяй.

**— Парламенцкая апазіцыя заўсёды падтрымлівала ідэі Барыса Ельцына. Як вы зараз ставіцеся да яго імперскіх замашак і прапаноў аб пераглядзе межаў рэспублік?**

— Канешне, трэба аддаць належнае Ельцыну і яго мужным паводзінам у час путчу. Але згадванне пра перагляд межаў лічу яго вялікай памылкай. Беларусь тады таксама можа паставіць пытанне аб вяртанні ёй Віленшчыны, Беластоцкіх земляў, аб Смаленшчыне і Пскоўшчыне. Аднак практыка паказвае, што перш чым пытанне спрэчных тэрыторый вырашыцца, гэтыя землі будуць паліты крывёю.

Што датычыць імперскіх амбіцый Ельцына, я можа не гаварыў бы так катэгарычна (хаця Пазняк называе іх менавіта так). Расія зараз знаходзіцца, з аднаго боку, у стадыі станаўлення як вялікая дзяржава і адначасова ў стадыі распаду, паколькі ў ёй утвараюцца нейкія новыя самастойныя адзінкі. Перад Расіяй альтэрнатыва — стаць вялікай дзяржавай ці распасціся. І Расія, безумоўна, імкнецца сабраць усе землі ў адзінае цэлае. Але такая палітыка прэзідэнта, даравальная ў адносінах да рэгіёнаў сваёй рэспублікі, наўрад ці дапушчальная ў адносінах да суседніх суверэнных дзяржаў.

Не ведаю, робіцца гэта са згоды расійскага кіраўніцтва ці не, але сёння ўжо можна гаварыць аб тым, што Беларусь апынулася ў сітуацыі, якую я абазначу, як інфармацыйная блакада. Цэнтральнае радыё і тэлебачанне пра нашу рэспубліку дае мінімум інфармацыі. Як сакратар камісіі па галоснасці ў сродках масавай інфармацыі, я звязаўся з Ягорам Якаўлевым, новым старшынёй Дзяржтэлерадыё СССР. Ён падзякаваў мне за заўвагу і сказаў, што мае прэтэнзіі беспадстаўныя. Збег акалічнасцей, канстатаваў Якаўлеў, і мы будзем сачыць за гэтым больш уважліва. Што ж, паглядзім і мы. Я схільны верыць Якаўлеву, але ўсё ж такі пытанні ёсць...

**— Як вы лічыце, ці зможа эканоміка Беларусі вытрымаць "выпрабаванне суверэнітэтам"?**

— Здаецца, наша рэспубліка на рэсурсы не бяднейшая, чым Галандыя, Бельгія ці Японія. Акрамя таго, у нас дастаткова добра развіта лёгкая прамысловасць, радыёэлектроніка, навукаёмістыя вытворчасці. Справа за арганізацыяй эканамічных адносін, і тут сапраўды вялікія рэзервы і магчымасці. Мяне, напрыклад, не палохае заява расійскага ўрада пра тое, што Расія будзе прадаваць нам нафту па цэнах сусветнага рынку. Для Беларусі гэта азначала б імгненны крах. Але ўся нафта, якая ідзе з Расіі ў Заходнюю Еўропу, перапампоўваецца праз Беларусь. Натуральна, што за транзіт мы таксама можам назначыць высокія стаўкі. На такія жорсткія меры мы першымі не пойдзем, але калі нам паставяць кабальныя ўмовы, вымушаны будзем на іх адказаць. І Расіі, і Беларусі больш выгадна будаваць свае адносіны на парытэтных сяброўскіх пачатках. Ды і ўвогуле, ці патрэбна заключаць пагадненні праз маскоўскія кабінеты, калі з'явіцца магчымасць рабіць гэта непасрэдна з абласцямі, з Цюменню, напрыклад.

**— Я чула, што ў нас хутка будуць свае, беларускія грошы...**

— Думаю, што будуць. Нават старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч сёння прызнае, што ўводзіць нацыянальныя грошы трэба. Вельмі хутка ўсіх нас чакае гіперінфляцыя. Прыкладна да наступнага лета мы ўсе станем мільянерамі і будзем атрымліваць мільённыя зарплаты. Але ж і цэны будуць адпаведнымі. Да таго ж, многія рэспублікі ў апошні час змянілі закупачныя цэны, і сёння нярэдкія выпадкі, калі сяляне, напрыклад, з Верхнядзвінскага раёна прадаюць жывёлу ў Латвію альбо Літву. Каб не дапусціць фінансавага крызісу, пазбегнуць гіперінфляцыі і абараніць спажывецкі рынак, нам патрэбны свае грошы.

**— Ці будзе Беларусь мець сваё нацыянальнае войска?**

— Не так даўно Барыс Ельцын сказаў, што на тэрыторыі СССР ёсць тры "ядзерныя" рэспублікі — Расія, Украіна і Казахстан. Будзем лічыць, што ён проста агаварыўся, таму што Ельцын не мог не ведаць, што ёсць яшчэ і Беларусь, на тэрыторыі якой шмат ядзерных баз. З самага пачатку свайго існавання БНФ выступаў за тое, каб зрабіць Беларусь бяз'ядзернай зонай і нейтральнай рэспублікай. Нацыянальнае войска ў нас будзе, але пры абавязковай ненаступальнай дактрыне і знішчэнні наступальных відаў тэхнікі. Да таго ж гэтае войска будзе падпарадкоўвацца не адной асобе, а парламенту.

**— У вашых адказах многа трывожных нот, заклапочанасці нялёгкім становішчам у рэспубліцы. Як вы лічыце, што нас чакае ў бліжэйшы час?**

— Найперш лічу, што нам трэба прыняць новую канстытуцыю, у якой была б закладзена ідэя парламента на прафесійнай шматпартыйнай аснове. Прыняць трэба новы закон аб грамадзянстве, аб выбарах, а таксама правесці новыя выбары ў парламент. Але ў адрозненне ад многіх сваіх калег па апазіцыі, я не ўскладаю вялікіх спадзяванняў на новыя выбары, калі іх правесці ў тэрміновым парадку. Мы стаім на парозе зімы, у рэспубліцы ўскладняецца эканамічнае становішча, людзі робяцца агрэсіўнымі. Іх лёгка збіць з панталыку. Дастаткова, напрыклад, той жа КПСС паабяцаць народу нейкую стабільнасць, і за ёю пойдуць. А гэта катастрофа. Калі будзе голад, энергетычны крызіс (а мы стаім на парозе), парасткі прадпрымальніцтва, бізнесу, рынычных адносін, фермерства, якія ў нас вельмі кволыя, будуць затаптаны, і зноў на нашу глебу пральецца кіслата нянавісці. Год назад на радыёстанцыі "Свабода" я прачытаў зварот ад апазіцыі да сусветнага супольніцтва, да замежных прэзідэнтаў, парламентаў і бізнесменаў з просьбай не даваць крэдытаў Гарбачову і СССР, бо ўсе гэтыя грошы пойдуць на ваенна-прамысловы комплекс, на новыя боегалоўкі і на прэм'ера Паўлава з яго ўрадам. Цяпер мы максімальна зацікаўлены ў тым, каб замежныя краіны рабілі інвестыцыйныя ўклады ў нашу эканоміку. (Дарэчы, беларусы былі першымі, хто прыняў закон аб замежных інвестыцыях). Да таго ж нам патрэбна неадкладная дапамога прадуктамі харчавання. Галодны народ, як я ўжо казаў, пойдзе за першым, хто паабяцае яго накарміць, не думаючы пры гэтым пра лёс дэмакратыі. Дыктатура ж не пакідае надзеі на заўтра!

**— Сяргей Іосіфавіч, на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета, калі яго Старшынёй быў абраны Станіслаў Шушкевіч, зацверджана новая назва — Рэспубліка Беларусь, калі беларусы здабылі сваю гістарычную дзяржаўную сімволіку, ці не было ў вас адчування, што завершаны нейкі гістарычны этап?**

— Ёсць, сапраўды, адчуванне таго, што за спіной застаўся вельмі важны этап, мінуў час, калі трэба было тлумачыць відавочнае, прабіваць сцяну неразумення, разбіваць стэрэатыпы. Гэтая праца не прыносіла ніякага задавальнення, але мы будавалі падмурак, і зараз проста трэба працаваць. Калі прымалася рашэнне пра новы сцяг і герб, гучалі галасы — а колькі грошай на гэта спатрэбіцца? Народ у галечы, а вы тут у сцяжкі гуляеце. Я не буду гаварыць пра гістарычную абгрунтаванасць нашых нацыянальных сімвалаў, думаю, што гэта зразумела. Я лічу, што адроджаная сімволіка будзе для нас тым самым штандарам, з якім мы пойдзем у цывілізаваны свет.

**Гутарку вяла Вераніка ЧАРКАСАВА.**




137

Ён некалькі разоў глянуў на яе, быццам жадаючы даведацца, што тварыцца ў яе душы, але яна заставалася для яго далёкай. Тугоўскі ўжо больш ня мог вытрымліваць, хвіліна перайшла ўжо ў доўгую гадзіну. Ён сабраў усю сваю сілу волі й пусціўся праз фае ў залю. Ён бачыў, як насьмешліва глядзелі на яго дамы й як шапталіся студэнты. Загорскі, здавалася, зноў нанёс яму ўдар па твары пры ўсіх, так, як калісьці даўно выцяў яго па твары і кінуў ганебнае слова "плябей". Цяпер гэта паўтарылася. Здавалася — наўмысьля пры ўсіх Загорскі назваў яго "плябей" і адабраў ад яго Вярхоўскую. Абражаны, ён сеў на крэсла і паглядзеў навокал сябе ў пустату, жахлівую проРву жыцьця. Што яму цяпер заставалася ў гэтым жыцьці? Ён зразумеў, што яна яго ня можа кахаць, яна яго не кахае. У вушах стаялі гукі толькі што сьпяванай песьні:

**Шкада, шкада майго сэрца,**
**Што я так любіў.**
**Шкада, шкада маіх ножак,**
**Што я к ей хадзіў...**

"Ой, шкада, шкада"... — загучэла ў вушах. Загучэў званок. Публіка зноў хлынула хвалямі ў залю. Загорскі з Вярхоўскай увайшлі раней усіх і селі ў другім канцы залі, далёка ад Тугоўскага. Тугоўскі больш ня мог сядзець і цярпець. Ён толькі чакаў, калі ў залі пагасяць вагні, каб выйсьці нікім не прыкмечаным. Нарэшце, сьцямнела. Пачалася дэклямацыя. Галевіч пры гэтым барытонам пачаў верш Гаруна:

**У гэту ноч мне ня ў моч:**
**Няма сілы чакаць і маліць...**

Тугоўскі ня вытрымаў. Ён ускочыў, як ранены, і паляцеў на выхад. Няхай прадоўжываецца

138

ўрачыстасьць без яго, няхай выступае з дэклямацыяй Вярхоўская. Яму няма чаго больш рабіць на гэтым сьвеце...

VI

Дзіўная марозная ноч агарнула Тугоўскага. Сьнег скрыпеў пад яго нагамі і больш, чым калі-небудзь, пераліваўся сваімі дзіўнымі пэрламі: зоры шапталіся ў небе. Вялікае места спала, зачараванае сном. А ён ішоў. Ішоў адзін, як воўк, вялікай і пустыннай дарогай, і яму заставалася толькі завыць... Завыць, як воўк. Ён прыдзе ў сваю інтэрнацкую кануру, адзінокі, не абласканы, не абагрэты! Ён акіне вокам свой кут і ня знойдзе там нічога, што б сьведчыла аб прысутнасьці любімай рукі. Ні аднэй кветкі, ні аднэй прыметы. Пуста... Усё пуста, як у сараі. Так заўсёды. Ён ідзе па жыцьцю ўсё тэй самай пустыннай дарогай, як воўк. Ён радзіўся, напэўна, для таго, каб блукаць па сьвеце з сумам у грудзях і не знаходзіць нідзе ні спакою, ні радасьці, ні шчасьця. Яго шлях акрэсьлены, як русла ракі, акрэсьлены з самага дзяцінства. Ён радзіўся пад праклятай плянэтай Сатурнам. І чаму ён яшчэ тварыў гэтую камэдыю з таго часу, як даведаўся аб сваім жыцьці, чаму ён паслухаў Кірылу, паступіў у унівэрсытэт, закахаўся і натварыў столькі зусім непатрэбных дурніц. Чаму ён ня скончыў жыцьцё тады, калі пісаў сваю "Споведзь самагубцы. Кнігу для ўсіх і ні для кога". Як пуста, як брыдка ў яго на сэрцы. Зноў раскрылася рана, не зажыўшая пад уплывам часу. Адвечная рана сэрца. Ён адзінокі! Ён нікому не патрэбны, ён ні для кога не цікавы. Так што ён,

139

знача, нікому больш не патрэбны? Да ўсіх чартоў і унівэрсытэт са стыпэндыяю, і каханьне!.. Унівэрсытэт! Ха-ха! Чаго варты ён, калі не дае чалавеку магчымасьці палепшыць сваё жыцьцё. Запраўды, лацінскае слова і гісторыя яшчэ не робяць з селяніна інтэлігента, мужык і пасьля унівэрсытэта застаецца тым самым мужыком, як і да паступленьня ў яго. Які-небудзь Загорскі заўсёды будзе стаяць вышэй, нават нічога ня скончыўшы, бо сьвецкасьць у яго ў крыві з дзяцінства, здабыта выхаваньнем. Выхаваньнем!

Усё залежыць ад выхаваньня... Можа быць, калі-небудзь новае пакаленьне сялян, працаўнікоў, работнікаў, будзе мець такія школы, дзе яно будзе выхоўвацца з малых дзён сьвецкім, яму дадуць тое, чаго не маглі даць бедныя сяляне; можа быць, нарэшце, частка сялян будзе самавыхоўвацца, як, напрыклад, Бурак, будзе выхоўвацца пакахаўшай яго графіняй, але ён ужо ня можа заняцца выхаваньнем. Позна, позна! Ён павінен кінуць унівэрсытэт. Стаць грузчыкам, возчыкам усё роўна калі, толькі нічым, як нічым быў яго бацька. Скончыць унівэрсытэт і насіць у кішэні дыплём, накінуўшы на сябе маску пана, ён ня можа. Ён павінен застацца чэсным з сабой. І тады, можа быць, ён пакахае якую-небудзь сялянку. Хіба мала ёсьць прыгожых дзяўчат, на якіх не зьвяртаюць увагі "інтэлігэнты", і асабліва тыя "інтэлігэнты", якія ствараюць "Беларускую Граmаду ў Празе". Ім патрэбны графіні, багатыя чэшкі, студэнткі, і ні адзін з іх не падумае, што ёсьць тысячы прыгожых беларускіх сялянак, якія могуць быць прыгожымі жонкамі і добрымі гаспадынямі. Так апрасьціцца! Ськінуць з сябе гэты горды і брыдкі ярлык "інтэлігэнта", а стаць про-

140

стым работнікам, а мазалістай рукой тварыць запраўдныя вартасьці. Так, не патрэбны яму болей гэты унівэрсытэт, і не патрэбна яму дачка папа Вярхоўскага! Паехаць куды-небудзь далёка-далёка і ў якой-небудзь палескай глушы тварыць сваё жыцьцё. Можа быць такім чынам ён атрымаў-бы патрэбную палёгку для сваей змучанай душы, можа быць там, у глушы, ён нарэшце супакоіўся-б ад шуму, енкаў сучаснай культуры. Апрасьціцца. Выйсьці з гэтага сьвету з новым сэрцам, з новымі думкамі, выйсьці з гэтых шумных гарадоў, каб ніхто ня ведаў, дзе загінуў, як скончыў сваё карыснае жыцьцё Тугоўскі. Бывайце, блакітныя вочкі Вярхоўскай. Ня бачыць вас болей, не лавіць вашых усьмешак, не дрыжаць над вашым сьветам, не шукаць у вас пацехі і забыцьця... Бывайце. Сьвіціце іншым людзям, якія пойдуць на ваш блеск, як магнит на далонь. Сьвяціце! Красуйцесь!

Вось праявіўся ў цемры яго інтэрнат. Адзін ліхтар блішчыць толькі каля варотаў... Каб не званіць таўстому, у акулярах, швэйцару, які зараз сьпіць на сваіх пуховых пярынах, і каб не плаціць яму лішняй чэскай кроны, ён пералез праз плот у сад і пайшоў спакойна дахаты. У пакоі ўсе спалі. Ён лёг на пасьцель, паляжаў, потым устаў, палез у свой чэмадан, дастаў сьвечку і вышаў у карыдор пісаць ліст Вярхоўскай. Ён доўга сядзеў перад белым аркушам паперы. Жыцьцё пранеслася перад яго задумнымі вачыма. Ён углядаўся ў сваё адношаньне да Вярхоўскай і бачыў, што нямала прыгожых падзей было раскінута там, нямала было горычы і сьлёз — і ўсё ж такі апошняя горыч перапоўніла чашу. Ён пачаў пісаць: "Высокапаважаная Гелена Уладзіміраўна! Я дазволю сабе патурбаваць Вас гэтым лістом, бо пасьля таго, што

141

здарылася на сёньняшняй вечарыне ў "Чэска-Рускай Едноце", я не магу маўчаць. Можа быць, не прыдалі сваіму паступку ніякага значэньня; можа быць, Вы так зацікавіліся Загорскім, што забыліся, дзе знаходзіцеся й запамятавалі, што ўсяго дзьве хвіліны назад таму Вы сядзелі і гулялі са мной. Вы не бачылі, як я стаяў каля калёны пад насьмешкай залі і студэнтаў, пад насьмешкай Вашага "сябры" і можа быць пад скрытай Вашай насьмешкай, насьмешкай Вас саміх. Вы не зразумелі, колькі горычы і абразы нанесьлі мне, калі пры ўсіх селі ў другім канцы залі — быццам дэманстратыўна, не жадаючы больш гутарыць са мной. Вы не зразумелі. А можа быць Вы й зразумелі, а можа быць Вы рабілі ўсё гэта сьвядома Вашаму сябру Загорскаму і ў павучаньне мне. Так, для меня гэта добрая навука! Цяпер я зразумеў, што я паступіў, як хлопчык, як закаханы гімназісьцік, калі думаў аб Вас, сваім каханьні да Вас. Што, не? Я на Вас нісколькі ня злуюся й не наракаю. Было-бы з майго боку глупствам нападаць на Вас за тое, што Ваша сэрца не ляжыць да мяне. Вы — вольны. Голас Вашага сэрца для Вас — адзіны закон. Гэты закон сяньня выявіўся яскрава. Вы ляціце ў абоймы Загорскага, як матыль на вагонь, і ня думаеце, што апаліце крыдлы. Вы маеце на гэта права. Я пішу Вам гэта не з дакорам. Пішу таму, што я больш не жадаю заставацца ў Празе й таму, што хачу сказаць Вам толькі некалькі апошніх разьвітальных слоў...

Бывайце, паважаная Гелена Уладзіміраўна! Жадаю Вам шмат шчасьця й посьпеху ў жыцьці. Памятайце толькі, што ў тыя даўгія зімовыя ночы, калі ўсе будуць спаць, калі толькі я адзін запалю сваю лямпу ў сваім пакоі й пачую, што я адзін на сьвеце, абсалютна адзін, адзін, што няма тых дзіўных

142

вочак, у якія я любіў глядзець у цяжкія, бяссонныя ночы, я ўспомню пра Вас, як аб адзінай жанчыне, каторай я пісаў ліст і ад каторай хацеў бачыць пацеху і шчасьце. Хачу скончыць свой ліст уласным перакладам знакамітага ўкраінскага паэта Франка:

**Як пачуеш ўначы за сваім ты вакном,**
**Што хтось плача і клікае цяжка, —**
**Не ўзірайся туды, не дрыжы, не глядзі,**
**Не глядзі ты ў той бок, мая пташка!**
**То ня ёсьць сірата, што без бацькі блука,**
**Не галодны бядняк, мая зорка:**
**Гэта плача мая неўцішыма туга,**
**То каханьне маё плача горка...**

Не зьвяртайце ўвагі на слова "пташка": па-беларуску будзе "птушка". Зразумейце маю думку. Так, яшчэ раз жадаю, жадаю Вам усяго найлепшага —

Пётра Тугоўскі".

Ітак, усё скончана! Ён пакіне Вярхоўскую, пакіне Прагу, усё пакіне, толькі зараз адмовіцца ад стыпэндыі. Раз ён пакідае ўсё, было-б нячэсна яшчэ лічыцца стыпэндыятам.

Ён крыху падумаў і напісаў другую паперу ў "Чэска-Украінскі Камітэт": "Прашу мяне выключыць з дапамогі па майму ўласнаму жаданьню". На адну хвіліну яму самому стала жудасна. Што ён зрабіў? Ён, фактычна, канчаў самагубствам. Ён нісьчыў тое, да чаго сам імкнуўся, што было мэтай яго жыцьця, ува імя чаго ён ехаў у Прагу. Якой

---

Працяг.
Пачатак у №№ 23 — 39.

143

барацьбой, якімі мукамі была даступна стыпэндыя, і цяпер ён так лёгка сам уласнай рукой адкідвае яе. Сьлёзы навярнуліся на яго вачох. Успомніў ён, як благаслаўляла яго старушка-матка на станцыі, як плакала, жадаючы яму шчасьця. Бедная старушка! Дзе яна цяпер? Ён даўно ня пісаў ей, бо ня мог як чым пацешыць... Цяпер яна, можа быць, не перанесла-б удару, каб даведалася, што зрабіў яе сын. Можа быць запраўды не рабіць гэтага кроку, можа быць не пісаць у камітэт? Сьлёзы сталі на вачох. Але рашыў ён праз хвіліну, бо жыцьцё згубіла для яго ўсякую ілюзію, скончыць з усім аканчальна і беспаваротна. Ён сабраў паперы, адрасаваў у Студэнцкі дом і вярнуўся ў пакой, не жадаючы, каб яго хто-небудзь пабачыў у карыдоры.

VII

Уся "Беларуская Грамада ў Празе" была абражана і звварушана. Па ўсяму Студэнцкаму дому былі раскленены абвесткі "Чэска-Украінскага Камітэту" аб сваей дзейнасьці й у адным з паведамленьняў было сказана, што беларускі студэнт Тугоўскі быў зволены са стыпэндыі па ўласнаму жаданьню. Студэнты сабраліся ў гуртох і абгаварылі. Больш за ўсіх гарачыўся студэнт Тамашэвіч:

— Чорт ведае, што такое тварыцца ў нас, — лаяўся ён, — беларусы згубілі для сябе цэлую стыпэндыю.

— Запраўды, у нас справа з гэтай стыпэндыяй не пастаўлена яшчэ на належны грамадскі грунт,

144

— сумна зазначаў Кірыла. Ён больш за ўсіх быў звварушаны паступкам Тугоўскага. Ён ніколі ня мог чакаць гэтага.

— Вядома, — падхопліваў Тамашэвіч. — На Бацькаўшчыне ёсьць дзесяткі здольных маладых беларусаў, якія жадаюць вучыцца пры ўсякіх варунках, перабіваюцца, што завецца, з хлеба на квас, каб толькі ўлезьці ў вышэйшыя школы. Заместа таго, каб іх падтрымаць, мы падтрымліваем нейкіх Тугоўскіх, якія прыносяць нам толькі шкоды.

— І хоць-бы, дурань, парадзіўся з Грамадой, — сказаў Малевіч, — хоць-бы даў магчымасьць заманіць яго кім-небудзь з іншых, але так, каб для нас заставалася яшчэ стыпэндыя... Цяпер жа мы аўтаматычна ўсё згубілі.

— Запраўды — як па прыказу, — сказаў Тамашэвіч, — адзін дурань у ваду камень кіне, а дзесяць разумных выцягнуць... Цяпер ня можна зусім нічога зрабіць у гэтай справе. Я думаю, яшчэ можна зазначыць кіраўніку камітэту, што Тугоўскі зрабіў гэта з якіх-небудзь чэсных матываў. Грамадзяне, трэба ўсё ж такі прызнаць, што ён запраўды зрабіў гэта пад уплывам якіх-небудзь дзіўных перажываньняў. Зусім чэсна. Я думаю, нячэсны які-небудзь авантурна стараўся-бы ўсімі сіламі атрымаць стыпэндыю, а не адмаўляцца ад яе.

— Добрая чэснасьць, — засьмяяўся Тамашэвіч, папраўляючы свае даўгія валасы, — адняць кавалак хлеба ад другіх, яго жадаючых.

— Што зробіш, грамадзяне, — спакойна зазначыў Кірыла, — бываюць розныя выпадкі... Бывае, напрыклад, што чалавек паміраe. Мала было ў іншых Грамадах выпадкаў, каб паміралі студэнты? Так уявіце сабе, што Тугоўскі памёр.

